# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
385 Alabama Ave, Apt. 17, Brooklin 7, New York, U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАУ У АМЭРЫЦЫ BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 17 (41) 5 Верасьня 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. September 5, 1953 Vol. IV. № 17 (41)


## Параза СССР у ЗН

Колькі дзён таму закончылася Надзвычайная Сэсія Задзіночаных Нацыяў, прысьвечаная абмяркаваньню пытаньняў палітычнае канфэрэнцыі, якая мае быць скліканая паводле умоваў замірэньня, не пазьней, як праз тры месяцы пасьля ягонага падпісаньня. Згаданая канфэрэнцыя абярнулася ў змаганьне паміж ЗША і СССР, якога у шмат выпадках падтрымлівала Ангельшчына, а часам і Францыя. Плян ЗША прадугледжваў удзел у мірнай канфэрэнцыі дзеля заладжаньня Карэйскага пытаньня толькі прадстаўнікоў тых дзяржаваў, якія бралі ўдзел у вайне ў Карэі, з тым, што СССР які афіцыйна ў Карэйскай вайне ня ўдзельнічаў мог быць запрошаны на канфэрэнцыю або Паўночнай Карэяй, або Чырвоным Кітаем, г. зн. дзяржавамі-агрэсарамі. Савецкі Саюз вуснамі свайго прадстаўніка Вышынскага дамагаўся, каб у будучай канфэрэнцыі удзельнічалі й „нэйтральныя" дзяржавы, як СССР, Польшча, Чэхаславаччына, Індыя ды інш. агулам 11 чалавек. Колькі дзён пазьней Вышынскі паставіў быў на абмяркаваньне ЗН іншую прапанову, якая прадугледжвала ўжо склад будучае мірнае канфэрэнцыі ў 15 чалавек. Меліся імі быць прадстаўнікі: ЗША, СССР, Ангельшчыны, Францыі, Чырвонага Кітаю Паўночнае й Паўдзённае Карэі, Індыі, Польшчы, Бірмы, Інданэзіі, Чэхаславаччыны, Сырыі, Эгіпту й Мэксыку. Прапанова гэтая была, аднак, адкіненая 41 галасам супраць 7 і ўдзельнічаць у мірнай канфэрэнцыі у справе Карэі, якая будзе скліканая 28-га кастрычніка, а можа й раней, будуць толькі дзяржавы, запрапанаваныя ЗША, якія на самай справе змагаліся там на працягу колькіх год: па баку агрэсараў Паўночная Карэя й Чырвоны Кітай, а па баку Задзіночаных Нацыяў — Паўдзённая Карэя, ЗША, Ангельшчына, Францыя, Аўстралія, Канада, Бэльгія, Турэччына, Паўдзённая Афрыка, Філіпіны, Эфіопія, Нідэрлянды, Люксэмбург, Калюмбія, Новая Зэляндыя й Сіям. Савецкі Саюз будзе ўдзельнічаць у канфэрэнцыі, калі яго запросяць або Чырвоны Кітай, або Паўночная Карэя. Гэткім чынам ён будзе удзельнічаць на старане агрэсара, тады як Паўдзённая Карэя будзе выступаць на канфэрэнцыі па баку саюзьнікаў.

Трэба спадзявацца, што як Вышынскі, гэтак і Чырвоныя Карэя ды Кітай будуць прабаваць розных спосабаў, каб паправіць сваю паразу. Можна спадзявацца зь іхнага боку яшчэ шмат прыкрасьцяў. Тымчасам, у Сэкратарыяце ЗН гаручкова распрацоўваюцца пляны скліканьня мірнае канфэрэнцыі ў справе Карэі. Бальшыня сяброў-удзельнікаў пагадзіліся, каб яна адбылася ў Жэнэве. Паўдзённа-карэйцы хацелі-б, каб яна адбылася недзе бліжэй Карэі — прыкладам на Гаваях ці ў Сан-Францыска, а краіны — Паўдзённае Амэрыкі намагаюцца пераканаць рэшту сяброў, што найлепшым месцам на канфэрэнцыю будзе Рыо-дэ-Жанэйра.

## Падзеі у Іране

Шмат шуму ў сьвеце нарабілі апошнімі тыднямі падзеі ў Іране. 19-га жніўня тут адбыліся нечаканыя й паважныя зьмены. Дасюлешні запраўды ўладар Ірану — прэм'ер Масадык, які апошнім часам усё больш пачынаў спрыяць камуністым, быў скінены з пасаду. Верныя шаху Магамэду Палеві (які колькі дзён перад гэтым быў выгнаны з Ірану), войскі захапілі ўладу. Сам Масадык, ягоны міністар замежных справаў Фатэмі й колькі іншых вышэйшых прадстаўнікоў Іранскага ўраду ратаваліся ўцёкамі, але ўдаліся яны толькі Фатэмі, бо Масадык і ягоныя ўрадаўцы былі неўзабаве знойдзеныя, арыштаваныя й маюць адказваць перад судом за здраду свае радзімы. Малады, выгнаны з краю шах, які пасьпеў ужо даехаць да Рыму, быў выкліканы назад і прыбыў пару дзён таму ў сталіцу Ірану Тэгэра, горача вітаны сваімі прыхільнікамі. Новым прэм'ерам Ірану зьяўляецца цяпер ген.-маёр Захэды. Ён з месца пачаў кампанію супраць іранскае камуністычнае партыі Тудэх, якой спрыяў арыштаваны былы прэм'ер Масадык. Шмат камуністых і іхных спадарожнікаў арыштаваныя.

Шах Палеві абвінавачвае Масадыка ў спробах адкінуць канстытуцыю й выклікаць фінансавы крызіс у Іране, выпушчаючы папяровыя грошы без пакрыцьця. Палітыка папярэдняга прэм'ера, — паводле ягонага цьверджаньня, — мела вынікам поўнае банкроцтва Ірану. Сяньня ў Іране пануе гэткая галіта, што без дапамогі звонку ён не патрапіць наагул даць сабе рады.

Камуністычная партыя Тудэх, абвешчаная паза законам, распаўсюджвае лістоўкі із заклікам змагацца супраць шаха й ангельцаў ды амэрыканцаў, якія „адны вінаватыя ў супроцьдзяржаўным перавароце у Іране".

Іранскія адзеі былі вельмі прыкрай неспадзянкай для Масквы. Усё, што адбылося кагадзе ў Іране — цяжкі ўдар для бальшавікоў, якія займелі там апошнім часам досыць паважных ўплывы. У сваёй прамове, выгалашанай 8-га зніўня, Маленкоў, прыкладам, вельмі прыхільна ў цёпла прыгадваў і Масадыка й ягоны урад.

Афіцыйны маскоўскі друк таксама пераконвае сваіх чытачоў, што да прыкрых для СССР іранскіх падзеяў спрычынілася ЗША.

Апошнімі днямі ў Іране здарыўся яшчэ адзін цікавы выпадак. З тутэйшых урадавых колаў паведамляюць аб самагубстве савецкага пасла ў Іране Лаўрэнцьева. Стан ягоны вельмі цяжкі. Перадаюць, быццам прычынаю самагубства савецкага пасла быў атрыманы ім загад варочацца ў Маскву. У сувязі із апошнімі, гэтак няспрыяльнымі для савецкае палітыкі падзеямі ў Іране, згаданы загад ня суліў Лаўрэнцьеву нічога добрага й ён наважыўся лепш адразу памярці, чымся адказваць за свае няўдачы перад гаспадарамі з Крамля, тым балей, што гэтая няўдача ўжо ня першая ў ягонай кар'еры. У 1948 г., калі ён быў паслом у Югаславіі, Тыта быў выйшаў з Камінформу й парваў сувязі з Масквою.

## Цьвярозы голас

У мінулым месяцы ў Мюнхэне адбыліся два выступленьні расейскага праф. Алексінскага, актыўнага супрацоўніка газ. „Вызваленьне", якая выдаецца ў Новым Ульме у Нямеччыне ў расейскай мове і бароніць правы ўсіх народаў, паняволеных бальшавікамі на незалежнае жыцьцё. У сваіх цікавых дакладах праф. Алексінскі — былы сябра Расейскае Думы — войстра скрытыкаваў расейскія эміграцыйныя арганізацыі й іхных правадыроў.

Праф. Алексінскі цьвяроза й правільна глядзіць на рэчы. Ён перакананы, што манархістычныя расейскія арганізацыі наагул ня могуць мець сяньня голасу ў палітычным жыцьці, бо жыхарства СССР, як бы яно не ненавідзіла бальшавікоў, ніколі не падтрымае справу адбудовы расейскае манархіі. Зусім няправільную й вельмі шкодную пазыцыю, асабліва небясьпечную, якраз, для расейцаў, — казаў праф. Алексінскі, — занялі сяньня перасвараныя міжсобку лідэры расейскае эміграцыі, якім, відаць, зусім не залежыць на змаганьні з бальшавізмам, бо ўсю сваю энэргію яны прысьвячаюць ходаньню ня з гэтым агульным ворагам, а з эміграцыямі іншых нацыянальнасьцяў. Лідэры КЦАБ'у Керанскі й Мяльгуноў на кажным кроку свае пра-

(Канец на 2-ой бал.)

## ХВАЛЬШЫВЫЯ ПРАРОКІ

Япіскап Расейскай Зарубежнай Царквы Нікан выступіў надоячы з лістом у „Ню Ёрк Таймс", у якім заклікае амэрыканскую прэсу, каб яна перастала падтрымліваць „сэпаратыстых" усходняе Эўропы, бо накш расейскі народ ня стане па старане дэмакрацыі ў змаганьні з бальшавізмам. Відаць, япіскап Нікан лічыць, што расейскі народ сам зрачэцца сваёй свабоды, каб толькі ўтрымаць „інародцаў" пры савецкай імпэры. Ён таксама ўскідае "сэпаратыстым", што тыя роўна ненавідзяць як сваіх сучасных бальшавіцкіх прыгнятальнікаў, так і былых царскіх.

Страх яп. Нікана перад ростам амэрыканскіх сымпатыяў да паняволеных народаў Савецкай імпэрыі моцна перавялічаны. Як амэрыканская прэса, так і амэрыканскія вядучыя палітычныя колы хутчэй падтрымліваюць расейскіх вялікадзяржаўных палітыкаў, — часта навет і даўна аджылыя свой век бязвартасныя фігуры мінулага чымся вызвольныя рухі народаў Усходняе Эўропы. Праўда, апошнім часам уздымаюцца й тут моцныя і ўсё часьцейшыя галасы аб даўно насьпелай патрэбе перайсьці да палітыкі вызваленьня, але гэта толькі паадзіночныя галасы і аб нейкай запраўднай перамене ў амэрыканскай грамадзкай ап'ніі гаварыць яшчэ зарана.

Калі з гледзішча на інтэрэсы ЗША й заходняй дэмакрацыі трэба сяньня узьнімаць трывогу запраўды, дык трывогу аб той ніскавокай палітыцы маркаваньня вялізных сумаў амэрыканскіх грамадзкіх грошаў на падтрымліваньне расейскіх імэпрылістычных элементаў, палітыцы напэўна шкоднай і для ЗША, і для вольнага сьвету наагул, палітыцы, якая падрывае сярод усіх народаў Усходняй Эўропы веру ў амэрыканскую дэмакрацыю й свабодалюбнасьць.

Агульна ведамая рэч, што вялікадзяржаўныя расейскія элемэнты актыўна й стала падтрымліваюцца такімі дыпляматамі, як ведамы й слаўны з гэтага Кэнан, такімі публіцыстымі, як Далін, які адкрыта й цынічна прапануе зрабіць з Расеі брутальнага жандара над народамі ўсходняй Эўропы. Аб гэтым-жа ясна гавораць тры мінулыя галы дзейнасьці Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму, хоць гэтая палітыка для вока стыдліва й прыкрывалася фігавым лістком „непрадрашэнства".

Тое самае відаць і ў паступаньні г. зв. Фордаўскага Фонду, які хоць і перахрысьціўся некалі з фонду „Расеі" ў фонд „Усходняй Эўропы", аднак ў запраўднасьці існуе толькі для мацаваньня расейскай эміграцыі, пакідаючы іншым народам Усходняй Эўропы або агрызкі, або нічога. Фонд гэты выдае што год вялізныя, стотысячныя сумы на друк расейскіх кніжак для белай эміграцыі ўсяго сьвету. З запланаванай сотні кніг, агульным тыражом каля поўмільёна, бальшыня ўжо надрукаваная пад іменем ведамага „Чэхаўскага" выдавецтва, тады як з гэтага фонду не дадзена ніводнага цэнта на выданьне хоць адной кніжкі ў беларускай, украінскай, армянскай ці грузінскай мовах, хоць на сваёй колькасьці гэтыя эміграцыі значна перавышаюць у ЗША эміграцыю расейскую.

Вось гэтак зусім адкрыта ЗША сваім капіталам мацуе ды штучна раздувае канаючую моц расейскай вялікадзяржаўнай эміграцыі, каб яна магла лепш змагацца з эміграцыямі іншых народаў Усходняй Эўропы, каб магла пагражаць ды страшыць, як гэта й робіць Керанскія, Мяльгуновы ды Ніканы. І калі, нягледзячы на

(Канец на 2-ой бал.)

### ЗЬМЕНЫ Ў САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІКАХ

У сувязі з арыштам Л. Бэрыі, абвінавачанага, між іншага і ў шкоднай і варожай нацыянальнай палітыцы, неўзабаве пасьля ягонага „выкрыцьця" пачаліся чысткі на вярхох урадаў Рэспублікаў Савецкага Саюзу. Першаю ахвяраю чысткі былі вышэйшыя ўрадаўцы Грузінскае ССР, другімі па чарзе былі Украінская ССР і Азарбайджан. 22-га жніўня савецкая прэса паведаміла аб зьменах у урадах Савецкае Беларусі й Летувы. Сакратар Баранавіцкага райкому партыі Клімаў вызначаны заступнікам старшыні савета міністраў БССР. С. Малінін вызначаны старшынёю Беларускага Госплану. Ісак Чорны — дасюлешні заступнік старшыні савету міністраў і старшыня Госплану, — звольнены з пасадаў.

Таксама і ў Лаутвіі звольненыя з пасадаў міністры земляробства, транспарту, лесапрамысловасьці й дзяржаўнага кантролю.

—o—

### БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАУНЫ ХОР АБ'ЯЖДЖАЕ СУСЕДНІЯ РЭСПУБЛІКІ

Менскі Беларускі Дзяржаўны Хор пад кіраўніцтвам ведамага дырыгента Рыгора Шырмы, які складаецца на сяньня з 60 сьпевакоў, выехаў у ліпені месяцы на шэраг канцэртаў у гарады Саюзных Рэспублікаў. 24-га ліпеня хор з вялікаю ўдачаю пачаў свае выступленьні ў сталіцы УССР Кіеве. Рэпэртуар хору вельмі вялікі. Ён складаецца з 500 песьняў, пераважна беларускіх народных ў апрацоўцы найлепшых кампазытараў і ў собскай апрацоўцы дырыгента.

## Чаму яны не пратэстуюць?

Дасьледваючы працу Задзіночаных Нацыяў, ня трэба шмат часу, каб пераканацца, што нябыло яшчэ ні аднаго пытаньня, ні аднае справы, навет найбольш мясцовага характару, у якія, калі яны бальшавікі ня ўнесьлі-б сваіх папраўкаў, былі пастаўленыя на абмяркаваньне ЗН, або якія-б яны не апратэставалі.

Усім нам добра ведамыя крыклівыя прамовы Грамыкі, Маліка, або яшчэ „лепшага" за абодвух з гэтага гледзішча Вышынскага, у якіх згаданыя савецкія прадстаўнікі ня сьціхаюць гукаць, што толькі „Заходнія імпэрыялістыя, прыгнятаюць тыя ці іншыя нацыі", а Савецкая Расея ніколі гэтага не рабіла й ня робіць, наадварот... Аднак, прыгледзеўшыся дакладней да зьместу пратэстаў савецкіх прадстаўнікоў у ЗН, а таксама й да каго яны накіраваныя, дасьледчык лёгка прыйдзе да выснаву, што пратэстуюць бальшавікі адно вылучна тады, калі тыя, да каго іхныя пратэсты накіраваныя, ня ведаюць сяньняшняга СССР і ніколі ня бачылі практычнага стану рэчаў у гэтай краіне.

Наадварот, перад тымі, хто бачылі жыцьцё ў СССР не з каляровага фільму, хто даведаўся аб савецкіх парадках не з тэорыі, не з прамоваў Грамыкаў ці Вышынскіх, а пазнаў іх на собскім гарбу, бачыў іх на практыцы, савецкія прадстаўнікі ніколі не выступаюць і іхных паглядаў не апратэстоўваюць. Гэтым людзям яны ня маюць што сказаць.

У мінулым годзе, прыкладам, жонка Давіда Кэллі, Вялікабрытанскага амбасадара ў Маскве, выдала была кніжку [1]) "Picture Book of Russia" — „Кніжка з малюнкамі Расеі". Кніжка гэтая, як „малюнкі" вылучна Расеі, нічым ня была-б асабліва для нас, беларусаў, цікавая, каб не адна спатканая там падрабязнасьць, якая аж надта вымоўна сьветчыць аб парадках ў сяньняшняй „незалежнай" Беларусі.

На вокладцы гэтае кніжкі зьмешчаная карта Эўрапэйскае Расеі, на якой сьцертыя з зямное паверхні „незалежныя дзяржавы" — сябры ЗН — Беларусь ды Украіна. На карце гэтай Расея лягла ад Бугу па Урал. З тэарэтычна-юрыдычнага боку, выданьне аўтарам кнігі із гэткаю картаю павінна было-б выклікаць пратэст, самперш, вядома, з боку самых паміненых „незалежных" дзяржаваў — БССР ды УССР, асабліва, калі сам урад Вялікабрытаніі вызнае СССР, а не Расею, ды на Ялцінскай канфэрэнцыі прыняў на сябе забавязаньне (якое й сяньня на міжнароднай сцэне упорыста бароніць) падтрымоўваць і вызнаваць „незалежнасьць" Беларусі й Украіны...

З практычна-ж — фактычнага боку, „незалежныя дзяржавы" Беларусь ды Украіна, ня маючы сваіх амбасадараў у ЗН, ня могуць гэтага зрабіць. А амбасадары Савецкай Расеі, даўней А. Грамыка, а сяньня Я. Малік, запратаставаць супраць непраўдзівага стану рэчаў (існаваньне адзінае Расеі) у СССР, прадстаўленага аўтаркай у ейнай кніжцы, не наважацца, бо сп-ня Кэллі бачыла СССР і пазнала парадкі ў ім ня з кіно й не з вакна самалёту, а на свае вочы з усёй ейнай няцікавай запраўднасьцяй. Бо сп-ня Кэллі ,хоць і жанчына, а паказалася лепшым палітыкам, чымся гэткі, прыкладам, Нэру, якому лёс судзіў зірнуць на СССР з вакна вагону й гэтага было досыць, каб ён пачаў пры кажнай нагодзе апісваць СССР як зямны рай, а не краіну найгоршага прыгнёту й галіты, якім ён ёсьць у запраўднасьці. Сп-ня Кэллі мела вочы адчыненыя на ўсё й ёй ня трэба было гадоў, каб пабачыць, што ня толькі ў рамах СССР няма ні Беларусі, ні Украіны, як незалежных дзяржаваў, але што няма іх там і ў такой форме, якая-б дазволіла адзначыць іх на карце, як нейкія дзяржавы наагул. І што найцікавейшае — у гэтым якраз выпадку ніхто з савецкіх прадстаўнікоў ані кнігі сп-ні Кэллі, ані ейнае мапы нат не паруп'іўся апратэставаць.

Нехта з нашых чытачоў зацеміць, можа, што, магчыма, ніхто з саветчыкаў ані кніжкі, ані карты сп-ні Кэллі наагул не заўважыў, як рэч дробную, на якую паважныя палітычныя мужы ня маюць часу зьвяртаць увагу. Дык вось, каб ня быць галаслоўнымі, мы прапануем нашым чытачом праверыць адну рэч, зь якой кажнаму будзе ясным, што для СССР у галіне палітыкі няма „дробных" рэчаў, калі толькі рэчы гэтыя гавораць пра нейкія існуючыя факты, супярэчныя з вялікадзяржаўным расейскім імпэрыялізмам.

„Апрельский Завод" патэфонных пліткаў у СССР награў быў у мінулым годзе, побач з расейскімі й колькі беларускіх пліткаў, [2]) на экспарт і выразана з прапагандною мэтай. На плітках гэтых у падзагалоўках (самы загалоўкі, больш-менш у нашай мове) напісана па-расейску даслоўна гэтак: Исполнена Белорусским Государственным Хором под управлением Г. Ширмы". На ангельскай-жа мове, у напісе зьмешчаным зараз-жа пасьля расейскага, гэты пераклад гучыць ужо йнакш: "Buelorussian Chours directed by G. Shirma". Слова дзяржаўны (государственный) на ангельскую мову не перакладзена й з ангельскага тэксту выкінена зусім.

Гэтая, запраўды, здавалася-б, дробязь, савецкімі кіраўнікамі, аднак, дагледжаная і як прыкрая расейскаму імпэрыялізму, не дапушчаная да нашырэньня ў англа-моўным сьвеце.

Ці-ж патрэбныя тут яшчэ шырэйшыя тлумачэньні?

[1]) Глядзі: "Picture Book of Russia" by M. N. Kelly, London 1952.

[2]) Глядзеце плітку Но. „В" 16655 „Ідзём пайдзём ўдоль вуліцы".

**М. Вярба.**

## ХВАЛЬШЫВЫЯ ПРАРОКІ

гэта, сілы вызвольна-рэвалюцыйных нацыянальных рухаў усё-ж увесь час самародна, упорыста, бяз нічыёй дапамогі растуць і магутнеюць, дык гэта найлепшая зарука таго, што перамога й будучыня за імі й за іхнымі вызвольнымі ідэямі.

Таму й фарызэйскі крык трывогі япіскапа Нікана аб нейкіх сымпатыях захаду да нерасейскіх народаў Усходняй Эўропы зусім неабаснованы, а заклік, каб ён зьмяніў свой тон, каб, відаць, і ЗША пачалі ў дапамогу недзялімцам палохаць іх ды граміць дапамагаючы ўтрымліваць для расейцаў іхную турму народаў цяпер і ў будучыне — гэта ня што іншае, як прапанова вольнаму амэрыканскаму народу дабравольна далучыцца да наглядчыкаў гэтай турмы. Япіскап Нікан неяк навет і незаўважае, што такая пасада для Амэрыкі зь ейнымі Вашынгтонавымі традыцыямі стаўленьня волі народу над усім іншым, зусім неадпаведная,хай яна й цалкам супадае з традыцыямі маскоўскага самадзяржаўя.

На такі заклік яп. Нікана, які па сваім духу ані дэмакратычны, ані амэрыканскі, ані хрысьціянскі, а толькі й вылучна вялікадзяржаўны Маскоўскі, адказаў сваім лістом япіскап Беларускай Праваслаўнай Царквы Васіль. Ліст гэты, надрукаваны таксама ў „Таймсе“, справядліва зьвяртае амэрыканскую ўвагу на тое, што народ, які адмаўляе права на свабоду іншым, ня мае ніякога маральнага права вымагаць яе для сябе.

Ды выглядае, што ані яп. Нікану, ані іншым расейскім вялікадзяржаўнікам пра свабоду расейскага народу зусім і ня ходзіць. Гэта выразна відаць з ведамага сьцьверджаньня Керанскага, што лепш хай пануюць над расейскім народам навет і благія дыктатары, чымся даць волю народам нерасейскім. Дык расейскія палітыкі, як і яп. Нікан, ставяць ідэю магутнай імпэрыі па над інтэрэсамі ды воляю й расейскага народу.

Ці можа мець нейкі давер і пашану расейскі народ да такіх палітыкаў, якія гэтак лёгкадумна абыходзяцца зь ягоным найдаражэйшым скарбам — правам на волю — даводзіцца моцна сумлявацца. Ніканы, Керанскія, Мяльгуновы, як і цэлая армія манархістычна-правай белай эміграцыі — былыя чыноўнікі, генэралы, абшарнікі — якія ўжо вось чацьверты дзесяток гадоў чакаюць на тое, калі ім Амэрыка сваёю крывёю верне іхныя капіталы, двары ды чыны ў Расеі, — гэта ні ў якім выпадку не запраўдныя правадыры расейскага народу, гэта ягоныя хвальшывыя пракорокі-фарызэі, якія больш думаюць аб сваіх прапалых чынох ды даходах у імпэрыі, чымся аб карысьцях ды свабодзе таго расейскага народу, зь якога крыві ды поту яны некалі тварылі роскашы свайго загубленага сяньня раю.

Б.

## *Цьвярозы голас*

(Канец)

цы ўмешваюцца ў нерасейскія справы, а між тым якраз расейская эміграцыя дагэтуль найболш неўпарадкаваная й несамавызначаная. Каб захаваць свае старыя пазыцыі згаданыя лідэры адмовіліся навет ад свайго прыроднага назову „расейцы“ й пачалі прапагаваць нейкую нявыразную назву „расіяне“. Дагэтуль ніхто зь іх не патрапіў зразумець, што напрацягу 36 гадоў сьвет непазнавальна зьмяніўся і што век прыгнечаньня й каляніяльнае палітыкі мінуў ды ня вернецца. Прыкладам гэтага Ангельшчына, якая, гэтак нядаўна яшчэ магутная каляніяльная імпэрыя, сяньня, аднак, прымушаная была ходой гісторыі адмовіцца ад свае даўнейшае палітыкі й даць незалежнасьць прыгнечаным народам сваіх калёніяў.

Найважнейшае й асноўнае ў змаганьні з бальшавізмам, — цьвердзіў у сваіх дакладах праф. Алексінскі, — гэта нацыянальнае пытаньне, дагэтуль нікім дзеля гэтага змаганьня ня выкарыстанае. Незразуменьне гэтага лідэрамі расейскае эміграцыі — Керанскім, Мяльгуновым і салідарыстамі ды інш. спрычыняе вялізарныя перашкоды ў антыбальшавіцкім змаганьні, бо-ж змаганьне гэтае будзе ў першую чаргу адбывацца на прасторах нерасейскіх народаў СССР. Расейская эміграцыя й ейныя састарэлыя правадыры павінны забыцца аб сваім лятуценьні — „вялікай і непадзельнай Расеі“, якое назаўсёды застанецца адно лятуценьнем і зьмяніць сваю няпрымірную палітыку ў дачыненьні да нерасейскіх народаў.

— „Я ужо адыйшоў быў ад палітыкі, — казаў далей праф. Алексінскі, — але апошнія падзеі прымусілі мяне заняцца пад старасьць ізноў ейнымі справамі. Я не зрабіў-бы, аднак, гэтага, каб ня быў пераканаы, што чым далей, — прыхільнікаў прыгаданае мною новае, разумнае й цьвярозае палітыкі будзе больш і больш. А расейскім палітыкам — шчыра раю заняцца сваімі справамі, якіх у іх ці мала, прыймаючы пад увагу вялізарныя чыста расейскія прасторы й бяду й галіту чыста-расейскага жыхарства, спрычыненыя ім бальшавіцкім ладам“.

На заканчэньне свайго выступленьня праф. Алексінскі выказаў пажаданьне, каб расейскія лідэры паважна абмяркавалі свае дасюлешнія пазыцыі й падумалі аб стварэньні запраўды расейскага палітычнага прадстаўніцтва ці арганізацыі без асецінаў, калмыкаў ды інш., пад адзіным правільным сяньня клічам: „За адзіную непадзельную волю“.

ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ „БЕЛАРУС“.

# Старым антыхрысьціянскім шляхам

Ад пачатку гэтага стагодзьдзя, асабліва-ж у апошнія дзесяцігодзьдзі, увесь сьвет перажывае далёкасяжныя працэсы перабудовы грамадзка-дзяржаўных арганізмаў. Амаль усе вялікія імпэрыяльныя комплексы разваліліся, а на іх мейсца зьяўляюцца ўсцяж новыя, чыста нацыянальныя адзінкі. Гэтыя працэс ахапіў ужо ўвесь сьвет і яго трэба толькі прывітаць, бо толькі свабодныя й незалежныя народы могуць стварыць базу для агульналюдзкіх паразуменьняў, ды пачаць пэрыяд культурнага будаўніцтва, пэрыяд свабоды людзей і народаў.

Што расейскія палітыкі ўсякіх колераў нязвычайна ахвоча закрываюць вочы на гэтыя непрыемныя для іхнае імпэрыялістычнае псыхалёгіі ўпартыя факты, даўно вядома. У недалёкім мінулым нацысты таксама закрывалі вочы на пэўныя людзкія аксыёмы й законы гісторыі, таму давялося іх адпаведна навучыць, і ня як нармальных людзей, а як цяжкіх злачынцаў. Відавочна гэтая самая доля чакае й іхных расейскіх калегаў, бальшыня якіх намагаецца забясьпечыць сябе шыльдаю „дэмакратаў“.

Але што нас асабліва зьдзіўляе ў апошні час, гэта тое, што навет Расейская Праваслаўная Царква нічога не навучылася ні з гісторыі, ні з караў Божых. Ня гледзячы на тое, што ейныя іерархі напэўна добра ведаюць Бібілію, й Хрыстовую навуку, якая кажа: любі бліжняга твайго як самога сябе й жадай яму таго, чаго сабе жадаеш, адзін з прадстаўнікоў згаданае царквы — япіскап Нікан выступіў кагадзе супраць гэтых сваіх бліжніх зусім адкрыта й бяссорамна.

Бо вось ён зьмясьціў у амэрыканскай газэце „Нью Ёрк Таймс“ ад 16-га жніўня ліст, у якім дамагаецца ад амэрыканскіх палітыкаў разграміць усіх „сэпаратыстых“, якія, бачыце, ня любяць „нацыянальнае“ Расеі! Праўда, тут дэмакрацыя, таму ён выяўляе гэтую сваю думку вельмі „культурна“ і вельмі па „хрысьціянску“: „Амэрыканская прэса павінна перастаць падтрымоўваць нацыянальных сэпаратыстых якія ня любяць Расеі, ды якія атажсамляюць герояў старое Расеі з цяперашнімі злачыннымі камуністычнымі павадырамі“. Амэрыканцы, працягвае гэты сын Царквы — павінны здабываць ласку расейцаў, бо „толькі тады, калі расейцы будуць па баку амэрыканцаў, магчымая перамога над камуністымі“. Урэшце дадаецца й выразная пагроза: „Калі расейскі народ ня будзе па нашым баку (г. зн. па баку Амэрыкі), дык перамога над камунізмам будзе амаль немагчымая“.

Трэба вельмі падзякаваць яп. Нікану за гэты ягоны ліст. Бо, папершае, ён сьцьвярджае й то вельмі аўтарытэтна, што ані адзін народ ня любіць гэтых сваіх расейскіх „герояў“, як ранейшых, так і цяперашніх; падругое, сам іерарх цьвердзіць, што ніякія расейскія палітычныя дзеячы, із царквою улучна, ня толькі не жадаюць свабоды тым, каго яны гвалтам паняволілі, але гатовыя кажнае хвіліны зусім непахрысьціянску расправіцца з усімі „сэпаратыстымі“, калі-б толькі яны атрымалі магчымасьць узяць іх у свае „хрысьціянскія“ рукі.

І в нашае балючае гістарычнае практыкі мы ведаем, што расейская царква ніколі не выступала супраць гвалтаў расейскага царату над нашымі нацыянальнымі героямі, наадварот, заўсёды дапамагала дзяржаўным органам русыфікаваць і дэнацыяналізаваць ня толькі нас, беларусаў, але й усе іншыя паняволеныя народы.

Праўда, — што цяперашняя расейская царква дапамагае бальшавіцка-расейскім камісарам душыць „буржуазных нацыяналістых-сэпаратыстых“, дык апраўданьне заўсёды знаходзіцца „Памілуйце, прычым тут царква? Яны-ж, духоўнікі, там такія самыя паняволеныя, як і ўсе іншыя, там камунізм усіх аднолькава душыць: беларусаў, украінцаў, каўказцаў і г. д., душыць і расейцаў.“

Аднак, гэта ня так і доказам гэтага ліст яп. Нікана ў амэрыканскай прэсе! Маральны ўпадак, як рак, так глыбока ўеўся ў косьць і кроў расейскае эміграцыі, што ей ня трэба ніякага камуністычнага націску. Зусім дабравольна, у самай дэмакратычнай краіне сьвету, іерарх царквы займаецца прапагандай ненавісьці й злобы супраць шматлікіх пакутуючых народаў, якім зруйнавана дзяржаўнае жыцьцё, некалі цьвітучыя гарады якіх абярнуліся ў руіны, а тысячы й мільёны іхных найлепшых прадстаўнікоў бязьлітасна зьлікведаваныя.

Здаровы розум людзкі, тым болей хрысьціянскі, здавалася, мусіў-бы падказаць такому япіскапу зусім іншы ліст, ліст поўны пакаяньня й просьбаў выбачэньня за ўсе мінулыя злачынствы як белага, так і чырвонага расейскага імпэрыялізму адносна паняволеных ім народаў! Бо-ж, як бачым, ніякае істотнае розьніцы між Аляксеем у Маскве й Ніканам у Нью-Ёрку няма, а дзе ў чым белы расейскі імпэрыялізм навет горшы за чырвоны, бо-ж апошні прынамсі на паперы павызначаў нацыянальныя рэспублікі, навет Беларусь і Украіну паслаў у ЗН. Ці-ж ня ясна канчае япіскап Нікан свой ліст: калі не дазволіце нам панаваць над паўсотняй народаў і рабаваць іх, дык бяда вам! Ён навет не падумаў аб тым, што прапануе амэрыканскаму народу супалку рабаўніцтва над іншымі народамі.

Так ідуць расейскія імпэрыялістыя, із сваею царквою улучна, старым антыхрысьціянскім шляхам. Яны не зьмяніліся ані на макавае зерне й ня думаюць палічыць для сябе за гонар, калі-б паняволеныя імі народы выбачылі ім усе іхныя злачынствы й прынялі іх у сваю свабодную сямью, на што гэтыя апошнія згодныя, гатовыя выбачыць, забыўшы аб мінулым, дзеля дабра свайго й іншых народаў.

Прыгаданыя агульныя думкі вельмі сьціпла, але запраўды пахрысьціянску, выказаў Уладыка БАПЦарквы Васіль у сваім адказе яп. Нікану, зьмешчаным у тым жа „Нью-Ёрк Таймс“. Уладыка Васіль, між іншым, піша: **„Япіскап Нікан уважае, што перамога над камунізмам можа быць лёгкай, калі расейскі народ будзе па нашым, г. зн., амэрыканскім баку. Але, каб ён быў па „нашым баку“, яп. Нікан вымагае ад амэрыканскае прэсы спыніць падтрымоўваць „сэпаратыстых“, варожых Расеі. На маю думку, Злучаныя Штаты, дзеля сваіх дэмакратычных традыцыяў, падтрымоўвалі й падтрымоўваюць ідэю свабоды ўсіх народаў, як расейскага, так і нерасейскіх. І гэта запраўды адзіны шлях да перамогі над камунізмам. Тое-ж, што нерасейскія народы не любілі й ня любяць расейскіх валадароў, рэч зусім натуральная. Калі расейцы хочуць мець свабоду самы, яны павінны жадаць свабоды таксама іншым. І мы ведаем, што толькі расейскія імпэрыялістыя ды япіскапы змагаюцца супраць свабоды нерасейскіх народаў цяперашняе савецкае імпэрыі. Як можа яп. Нікан вымагаць ад амэрыканскае прэсы заняць варожае становішча адносна нерасейскіх народаў толькі дзеля таго, што яны ня любілі й ня любяць расейскіх валадароў? Гэта-ж хіба сьвятое права кажнага народу! Апрача таго, гэтыя народы былі й ёсьць варожымі да расейскіх валадароў, але не да расейскага народу. Вымаганьне, каб Злучаныя Штаты, здабывалі сымпатыі расейцаў цаною падтрымліваньня іхніх імпэрыяльных амбіцыяў дзеля панаваньня над іншымі народамі цалкам пярэчыць духу амэрыканскае дэмакрацыі, хоць аўтар лісту, яп. Нікан і падчыркве, што ён амэрыканскі грамадзянін. Станоўча пярэчыць ліст і духу хрысьціянства, хоць аўтар — іерарх Расейскае Праваслаўнае Царквы“.**

Няведама чаму газэта не надрукавала апошнюю палавіну сказу, аднак, і бяз гэтага адказ запраўды дастойны, поўнасьцю вытрыманы й рачовы. Спадзяемся, што ня толькі амэрыканская прэса, але й амэрыканскі дэмакратычны чытач будзе магчы лёгка пераканацца, хто змагаецца за мір, супакой, за свабоду людзей і народаў, а хто жадае, каб і далей існавалі — паняволеньне, войны, дыктатуры й страх на сьвеце.

С. Клім

## *Колькі усіх жыдоу у съвеце*

Паводле апошніх статыстыкаў Сусьветнага Жыдоўскага Кангрэсу, усяго сяньня налічваецца на усім сьвеце **11.672,000** жыдоў, якія жывуць у дзевяноста сямёх краінах. На тры краіны - ЗША, Ізраэль і Савецкі Саюз прыпадае больш сямідзесяцёх процант гэтае агульнае лічбы. У Задзіночаных Штатах жыдоў каля пяцёх мільёнаў, у Савецкім Саюзе іх звыш двух мільёнаў, а у Ізраэлі агульны лік жыдоўскага жыхарства складае 1,450,000. Згодна із назіраньнямі, 1,200,000 жыдоў жыве ў Кітаі.

Калі падзяліць гэтыя лічбы паводле кантынэнтаў, — дык на Амэрыканскі кантынэнт (паўночная й паўдзённая Амэрыка) прыпадае 5,865,506 жыдоў, на Эўрапэйскі кантынэнт — 3,379,647 мільёнаў, 1,663,995 — на Азыю, 707,025 — на Афрыку й 55,845 тысячаў — на Аўстралію й Нова — Зэляндыю.

У Этыёпіі (Афрыка) жыве каля 20.000 асоб так званых „чорных“ жыдоў, якія цьвердзяць, быццам яны паходзяць ад біблійнае царыцы Сабы.

Вано Нануашвілі

# Магутнасьць і слабасьць Расеі

(працяг)

Жаданьнем нямецкіх вайсковых дзейнікаў што да змаганьня з Расеяй, быў добра ўсім ведамы плян моцнага адначаснага ўдару на паўночнае й паўдзеннае крылы расейскага фронту, абкружэньне расейскае арміі й адапхненьне яе на непраходныя балацяныя прасторы Палесься.

Аднак, баючыся аслабіць заходні фронт, нямецкае камандваньне ніколі не наважылася зрабіць згаданы вырашальны крок. У 1915 г., які быў годам пералому для Расеі, немцы прызначылі на ўсходні фронт адно столькі аддзелаў, каб мець магчымасьць адапхнуць ворага ад межаў канаючае Аўстрыі.

Расейская армія, дзякуючы свайму традыцыйнаму спосабу бясконцых адступленьняў, не дапусьціла да вырашальнага моманту, які, паводле пераканаўня расейскага камандваньня ня суліў Расеі ўдачы. Расейская ваенная дактрына хацела бачыць у згаданым вялікі розум свайго камандаваньня.

Але, ня гледзячы на гэткае пераканаўне, дарма што нямецкая камандаваньне таксама не магло кінуць на ўсходні фронт столькі аддзелаў, каб вырашыць на сваю карысьць лёс вайны, вынікі іхнае акцыі былі шмат лепшыя. Далейшыя выпадкі паймкнулі собскім палітычным шляхам і ніякія пазьнейшыя спробы не маглі ўжо выратаваць Расею ад поўнае, як ваеннае, гэтак і палітычнае паразы.

Бо ў канцы 1917 г. збройная моц і дзяржаўны апарат Расеі ўжо ня існавалі і яна была скрэсьляная з шэрагу ваюючых дзяржаваў, як дзейнік, які мог-бы яшчэ мець значаньне ў далейшай вайне.

Ці патрапіла Нямецкае камандваньне скарыстаць згаданае зьявішча ў сэнсе вайсковым ці палітычным? Будучы ўсьцяж пад гіпнозам заходняга фронту, яно, трэба сказаць, навет не падумала скарыстаць з добрае нагоды канчальна разьбіць усходні фронт, а пазьней, калі Расея ўпала сама, яно не пачулася на моцы стварыць які-колечы дзяржаўны апарат на месцы таго, які гэтак нечакана рассыпаўся пад ударамі звонку й ад сярэдзіны.

Палітычная ненаважласьць немцаў у часе Першае Сусьветнае вайны мела вынікам тое, што яны толькі зьліквідавалі свой усходні фронт і дабром, вывезеным з прастораў новапаўсталых гаспадарстваў, на кароткі час і ў малой меры палагодзілі эканамічны крызіс свайго собскага гаспадарства, не зьвяртаючы ніякае ўвагі на палітычнае выкарыстаньне сваіх ваенных удачаў.

Папярэдняя гісторыя Нямеччыны, праўда, ня мела прыкладаў, зь якіх яна магла-б скарыстаць у дадзеным выпадку. Усё, што немцы рабілі цяпер, было недастатковае й занадта анэмічнае, як на намаганьні дзяржавы, якая змагалася за панаваньне над сьветам. І толькі ў канцы 1918 г. Нямеччына пачала стаўляць першыя, падзіцячаму нясьмелыя палітычныя крокі. Але гэта было ўжо станоўка запозна.

Першая Сусьветная вайна яшчэ раз выразна зазначыла ўсе дазнаньні 1812 г. Яна вымоўна паказала яшчэ раз, што ваенная акцыя, праводжаная на прасторах Расеі мае свае канкрэтныя межы магчымасьці. Яна, праўда, таксама пацьвердзіла, што й збройную моц і дзяржаўны апарат Расеі можна зьнішчыць лепш і лягчэй, чымся моц якой іншай дзяржавы, але зазначыла й тое, што гэты факт яшчэ не дае аніякіх палітычных карысьцяў ды што якраз із момантам зьнішчэньня расейскіх збройных сілаў і пачыналіся заўсёды для ўсіх пераможцаў над Расеяй непераможныя цяжкасьці.

Ані Наполеон, ані кайзэраўская Нямеччына не знайшлі спосабу палітычнага выкарыстаньня сваіх ваенных удачаў і не патрапілі стварыць з паняволеных прастораў жывы арганізм. Дагэтуляшнія сяродкі й шаблёны выцісканьня з „этапнага абшару“ дапамогі дзеля падтрыманьня змаганьня не маглі вырашыць справу, бо пераможнае камандваньне ў абодвух выпадках апынулася было перад палітычнаю праблемаю зусім іншага памеру.

Немцы, таксама як і Напалеон, абмяжаваліся былі чыста ваенным вырашэньнем справы, не жадаючы палітычна падмацаваць свае вайсковыя ўдачы. З гэтае прычыны яны абмяжавалі свае супрацоўніцтва з новапаўсталымі на прасторах Расеі дзяржаўнымі арганізмамі адно выкарыстаньнем дзеля сябе й свае арміі іхных харчоў ды сыравіны. А гэтым яны раз і назаўсёды самі перакрэсьлілі магчымасьці, якія займелі, дзякуючы дасягненым удачам.

**
*

Яшчэ цікавейшаю з гэтага гледзішча была Другая Сусьветная вайна. Пачынаючы змаганьне з Савецкай Расеяй у чырвені 1941 г., немцы, па праўдзе, ня былі зьвязаныя аніякай іншай вайсковай акцыяй на іншых франтох, за вынятакам афрыканскага, дзе дзейнічаў параўнальна невялікі экспэдыцыйны корпус генэрала Ромля. Немцы мелі ў дачыненьні да Расеі цалкам вольныя рукі напрацягу 16 месяцаў.

Адно ў лістападзе 1942 г., высадка англа-амэрыканскіх аддзелаў у Афрыцы, маўляў звон, што абвяшчаў трывогу, паведаміў немцам аб зьяўленьні на прасторах Міжземнага мора дзейніка, які браў у свае рукі вырашэньне лёсу пачатае імі вайны. Факт гэты прымусіў немцаў пабудаваць на прасторах Цэнтральнае Эўропы супроцьвагу ў дачыненьні да гэтае новае небясьпекі. Але й так, як пазьней выявілася, яны мелі да моманту перанясеньня ворагам фронту гэтага змаганьня на сухазем'і Заходняе Эўропы яшчэ каля 10 месяцаў часу. Час гэты ўжыла нямецкая ваенная машына на змаганьне супраць Расеі.

Якія-ж былі вынікі згаданага напружанага змаганьня?

Вось-жа, нямецкія дзейнікі вызначалі былі сабе за мэту ваенных дзеяньняў палітычныя мэты — Масква-Ленінград. Да гэтых палітычных асяродзьдзяў яны й накіравалі былі сваю вылучна ваенную акцыю. Ясна, што гэта ня мела сэнсу. З аднаго боку немцы былі вызначалі сабе толькі палітычную мэту, падпарадкаваўшы гэтай палітычнай мэце ўсю сваю ваенную акцыю. А ў гэтым самым часе яны зусім не праводзілі ніякай палітычнай акцыі дзеля спараліжаваньня згаданых вышэй палітычных цэнтраў. Нем-

# Нашыя новыя саюзьнікі

У сярэдзіне мінулага стагодзьзя ўвесь сьвет быў захоплены гераічным змаганьнем вольных народаў Паўночнага Каўказу з непараўнальна большымі вайсковымі сіламі расейскае імпэрыі. Змаганьне гэтае **цягнулася на працягу 25 гадоў (1834-1859). Героем і правадыром ягоным быў слаўны Імам Шаміль.** Ня гледзячы на тое, што з таго часу мінула цэлае стагодзьзе, імя Шаміля жыве ў памяці Паўночна-Каўказкіх народаў да сяньня. **Пра яго складзеныя песьні, пра яго апавядаюць шматлікія лягенды.** Ягоны гераізм, адвага, наважнасьць **і бязьмерная любасьць да бацькаўшчыны** натхняюць сяньня **Шамілевых нашчадкаў на змаганьне з тым самым адвечным ворагам — расейскім імпэрыялізмам, у ягонай новай, чырвонай сучаснай адмене. І на чале гэтага змаганьня** стаіць сяньня ізноў **Шаміль, Саід — унук слаўнага змагара.**

**Паўночна-Каўказкі народ складаецца** з шматлікіх дробных плямёнаў — дагестанцаў, чычэна-інгушаў, асэтынаў, адыгэ, абаза-абхазцаў, карачай-балкарцаў і нагайцаў. Бальшыня зь іх належаць да г. зв. каўказкай групы, асэтыны-ж да іранскай, а кумыкі, карачай-балкарцы й нагайцы — да туркскай (татарскай) групы. Шматгадовае сужыцьцё на аднэй прасторы, супольнае гістарычнае мінулае, змаганьне супраць супольных варагоў і блізкія сувязі на працягу стагодзьзяў задзіночылі гэтыя плямёны ў адзін нацыянальны маналіт, у адзіны народ.

У перадгістарычныя часы народы Паўночнага Каўказу жылі на тэй самай прасторы, што й сяньня. Толькі частка іх, прыкладам, нагайцы, жылі ў стэпах ніжняга Паваложжа ці Чорнага мора. Аб продках дагестанцаў, чычэна-інгушаў ды інш. прыгадваюць старадаўныя гісторыкі Герадот, Страбона й інш. Усе яны сьветчаць, што народы гэтыя жылі ў тыя часы ўздоўж узьбярэжжаў Азоўскага ды Чорнага мораў, а таксама ў паўночнай частцы Каўказкіх гораў. Скрозь прыгадваюць аб гэтых народах і пазьнейшыя гісторыкі, бізантыйскія, арабскія, італьянскія... Народы Паўночнага Каўказу ў бальшыні мусулманы.

Змаганьне народаў Паўночнага Каўказу із Масквою, якое цягнулася напрацягу ўсёй блізу іхнай пазьнейшай гісторыі пачалося з таго часу, калі цар Іван Грозны заваяваў быў Казанскае ды Астраханскае ханствы, падыйшоўшы да межаў Каўказу. На рацэ Церак быў закладзены тады расейцамі гандлёвы пункт, які неўзабавеператварыўся быў у цьвярдыню, з муроў якое й пачалася упорыстая, безаглядная заваёва Каўказу. Спачатку войскі расейскіх цароў ня мелі ў гэтым змаганьні вялікшых удачаў. Але ўжо ад Пятра 1-га разгарэлася на прасторах паўночных схілаў Каўказкіх гораў сталая, доўгатрывалая вайна, якая й скончылася, ня гледзячы на ўвесь гераізм абароньнікаў, перамогай расейцаў.

У часы змаганьня Шаміля за незалежнасьць Паўночнага Каўказу, расейская армія складалася з 300.000 чалавек. Аднак, расейцам было патрэба аж 25 год крывавага нясупыннага наступу, каб акружыць у рэшце ў 1859 г. Шаміля на гары Гуніб і ўзяць яго ў палон. Але змаганьне на гэтым ня спынілася й трывала яшчэ напрацягу шмат гадоў.

Найбольш ахвяраў панесьлі ў прыгаданай вайне адыгэ. Каля мільёну жыхарства гэтага плямя было сілком выселена ў Турцыю, а на іхнае месца прывезеныя каляністыя з Расеі — продкі г. зв. сяньня кубанцаў.

Сяньня ўсіх Паўночна-Каўказцаў налічваецца да 5 мільёнаў.

Пасьля Лютаўскае Рэвалюцыі, у 1917 г. адбыўся быў зьезд паўночна-каўказкіх народаў, на якім быў выбраны Цэнтральны Камітэт горцаў Каўказу. Зьезд у месьце Анды ператварыў яго ў Урад Рэспублікі Паўночнага Каўказу. У 1918 г. на сталіцу маладое рэспублікі было выбранае места Тэмір-Хан-Шура. Адначасна, пачалося ізноў зацятае змаганьне з наезьнікам з поўначы, гэтым разам з чырвонаю савецкай арміяй.

У 1919 г. на Паўночны Каўказ прыйшла была армія Дэнікіна, які не палічыўся з абвешчанай Паўночным-Каўказам незалежнасьцяй, хоць яна й была прызнаная дэ-юрэ Турэччынай, Нямеччынай, Аўстрыяй і дэ-факта — Ангельшчынай. Прызнаў у гэтым часе незалежнасьць Паўночнага Каўказу й Савецкі Саюз, які, аднак, хутка аб гэтым забыўся. Змаганьне із Дзенікіным, а пасьля з Чырвонай Арміяй трывала да 1921 г. Пасьля гэтага ўрад Паўночна-Каўказкае Рэспублікі мусіў выехаць сьпярша у Грузію, а тады Саід Шаміль, правадыр змаганьня з чырвоным наезьнікам, распусьціў сваё войска й ратаваўся ў Турэччыну.

У часы бальшавіцкага панаваньня Паўночны Каўказ стаўся прастораю нясьціханных паўстаньняў супраць савецкае ўлады. У часох-жа апошняй вайны з Паўночнага Каўказу былі цалкам выселеныя найбольш няпрымірныя ягоныя жыхары — чычэна-інгушы й карачай-балкарцы, якія, быццам, спрыялі немцам, хоць немцы да земляў інгушаў былі навет не дайшлі.

На эміграцыі Паўночна-Каўказкі нацыянальны рух быў заўсёды вельмі дзейны. Яшчэ перад Другой сусьветнай вайной тут было шмат паўночна-каўказкіх арганізацыяў. Мелі яны й свой друк. Сяньня Паўночна-Каўказкая эміграцыя зьяўляецца актыўным удзельнікам усіх нацыянальных канфэрэнцыяў і сябрам Парыскага Пагадненьня, якое ймкнецца ўнесьці здаровую й разумную аснову ў пачынаньні Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня.

цам, відаць, здавалася, што палітычная акцыя ня будзе мець удачы пакуль нямецкая варта ня будзе пастаўленая ў Крамлі й яны не жадалі зразумець таго, што й гэтая варта нічога ім ня дасьць, калі ад пачатку вайны яны ня возьмуцца за праводжаньне належнае палітычнае акцыі.

Тымчасам, ваеннае палажэньне давала ім гэткія палітычныя магчымасьці:

З аднаго боку яны павінны былі абаперці вядзеньне вайны на вызвольных рухах паняволеных Саветамі народаў. Зь іншага боку — яны павінны былі-б скарыстаць змаганьне самога расейскага народу супраць зьненавіджанага ім дзяржаўнага ладу.

Каб рэалізаваць згаданую справу трэба было: абвесьціць і прызнаць незалежнасьць усіх паняволеных народаў, прызнаць арганізацыі, якія яшчэ перад прыходам немцаў змагаліся з савецкай расейскай арміяй, узмоцніць урады вызваленых народаў сіламі іхнае замежнае палітычнае эміграцыі. Трэба было аддаць у распараджаньне гэтых урадаў таксама і ўсіх тых людзей, што масава здаваліся ў нямецкі палон, каб згаданыя ўрады маглі пачаць наважнае народнае змаганьне супраць бальшавіцкае Расеі.

(Працяг будзе)

# Беларускія дажынкі

**(ПАВОДЛЕ ЗАПІСАУ КАРСКАГА Й РАМАНАВА)**

— „А нашыя жнейкі жыта пажалі,
Жыта пажалі, у копы паклалі”...

— „А ў нас сяньня дажон, дажон,
А хто не дажаў — таму ражон, ражон”..

Бел. дажыначныя песьні.

Дажынкі спраўляюцца на Беларусі пераважна тады, калі канчаецца ячнае ды жытняе жніво. Аўсы й ляны — гэта ўжо восенская праца. Жнучы аўсы, ці ірвучы ляны, жанчыны й дзяўчаты навет песьні сьпяваюць ужо іншыя, на мэлёдыю, якая так і завецца шмат дзе на Беларусі „восень”. Гэтаю парою і сьпякота ды ўтома ўжо ня так дакучаюць, бо сонца пазьней узыходзіць ды раней заходзіць і працоўны дзень карацейшы. На аржоньні доўга блішчыць раніцамі сьцюдзёная раса або ляжаць туманы, а калі яны, нарэшце, лёгкаю параю ўздымаюцца ўгару, — на кажным сьцяблы, на кажнай травіне зьзяе, быццам тое срэбра, тонкае, дзіўное восенскае павуціньне...

Часам, калі жытняе жніво зацягваецца дзеля дрэннага надвор’я, дажынкі выпадаюць на гэткія дні й сьвята гэтае стаіць, бясспрэчна, на парозе восені. Але восенскае тугі ў беларускіх дажынкавых песьнях блізу ня чуваць. Яны вясёлыя, бадзёрыя, або поўныя нейкага глыбокага, урачыстага, старадаўнага сэнсу...

Відаць, у найдаўнейшцыя часы, песьні гэтыя хавалі ў сабе сэнс і парадак розных абрадавых чыннасьцяў, зьвязаных із Дажынкамі, або уяўлялі сабой лірычны зварот да багоў, у гонар якіх адбываўся згаданы абрад. Аднак, зь бегам часу першабытны сэнс і самых песьняў і зьвязаных ізь імі старадаўных абрадаў тускнеў, пачынаў забывацца. Песьні, зьвязаныя із старымі паганскімі сьвятамі паволі набылі іншы сэнс і ў нашыя часы запраўды старымі засталіся ў іх адно звароты ды йімёны боствў — прыкладам, Купалы, Каляды, Лады, Рая, або й зусім ужо туманныя алегорыі. У беларускіх дажыначных песьнях якраз вельмі шмат гэткіх алегорыяў ды зваротаў.

Блізу па ўсёй Беларусі дажынкі спраўляюцца аднолькава.

У Меншчыне ў дзень Дажынкаў жнеі апранаюцца пасьвяточнаму. Канчаючы жаць, тры дзяўчыны бяруцца, звычайна, віць дажыначны або абжынны вянок: адна выбірае найбуйнейшыя каласы, уплятаючы ў іх знойдзеныя раней „спарышы” — падвойныя каласы — сымбаль плоднасьці й багацьця, другая віе зь іх вянок, а трэйцяя падтрымоўвае яго. Скончыўшы жаць апошнюю лапіну жыта, жнеі кладуць абжынны вянок на галаву аднэй зь дзяўчатаў, звычайна найпрыгажэйшай, і з песьнямі йдуць да хаты. Галасы іхныя гучаць моцна й бадзёра і іх чуюць у вёсцы яшчэ здалёк.

— „Адчыняйце шчытовы вароты, —
сьпяваюць яны, —
Ідуць жнейкі з работы.
Ня так-жа з работы, як з жаркай пя-
[коты”...

Ля ганку жнеяў сустракае гаспадыня, здымае з галавы дзяўчыны вянок і дае ёй грошы. Да першае вайны, пераважна, за вянок „плацілася” 10 срэбных капейкаў, але часамі, у багацейшых гаспадарках, і паўрубля. Пасьля гэтага жнеяў запрашалі да стала, засланага тут-жа на двары перад хатай і частавалі. Абвязкавымі дажынкавымі патравамі былі бліны, густая каша й гарэлка. Выпіўшы па чарцы, другой, жнеі забываліся аб утоме й пачыналі сьпяваць, а тады й скакаць. Песьні, музыка й весёлы гоман Дажынкаў трывалі часьцякам аж да золку.

У Магілеўшчыне, канчаючы жаць, пакідаюць на загоне жменьку каласоў. Іх зьвязваюць істужкай у пучок і пакідаюць, як кажуць „на бараду Богу”. Бараду гэтую чысьценька полюць рукою, абкручанай рукавом ці хусткаю, а тады пасьцілаюць пад каласамі кавалак чыстага кужалю й кладуць на яго акрайчык хлеба й шчынту солі. Пасьля гэтага жняя тры разы перакачваецца на ніве, кажучы:

— „Ніўка, ніўка, аддай маю сілку
На другую ніўку,
На коніка лой, на ніўку гной,
А мне здароўя.
Судзі, Божа, налета жаці
І ядранейшае, і гусьцейшае”.

У Гомельшчыне на „бараду” пакідаюць куст найлепшага жыта, сядаюць ля яго й вяжуць чырвонаю воўнаю крыж з каласоў, а пасьля й вянок для гаспадара. Выпалаўшы „бараду”, каб жыта было на лета чыстае, без травы, паліваюць яе вадою, каб будучае лета ня было засушлівае, а тады йрвуць краскі і ўпрыгожваюць імі й „бараду” й вянок. Пасьля гэтага ўсе жнеі кладуцца на пожню, каб жыта на лета было гэткае густое, каб аж клалася на зямлю. Устаўшы, мыюць рукі й перавязваюць сярпы травінoю, каб на лета не парэзаць, жнучы, пальцаў.

У Віцебшчыне, дажынаючы жыта, таксама пакідаюць на ніве латку жыта, але завецца яна гэтта „кустом”. „Куст” складаецца дакладна з дзесяцёх каласоў. Каля іх колам сядаюць жнеі й пачынаюць вельмі паволі палоць у „кусьце” траву, сьпяваючы:

— „Край поля шырокага,
Пасярод мора глыбокага
А ішоў Спарыш ды па вуліцы.
Ніхто Спарыша ў хату не завець.
Выйшла, выплыла жонка Андрэява;
”А хадзі, Спарыш, у маю хату
А сялай Старыш, ды на покуце,
А еш, Спарыш, сахарны кус,
А пі, Спарыш, зеляно віно”...

Гэтак сьпяваючы, жнеі завіваюць каласы справа налева. Пасьля гэтага віецца вянок і кладзецца на галаву аднэй з жнеяў, абавязкава дзяўчыне. Віючы вянок, пяюць:

— „Жытцо, жытцо, ідзі дадому,
Настаялася ў чыстаму полі.
Як-жа мне ісьці дадому?
Мяне сякуць, рубаюць,
У полі стаяць пакідаюць”...

Калі паміж жнеяў дзяўчатаў няма, дык вянок кладзе на руку адна з жнеяў-жанчынаў. З гэтым вянком жнеі йдуць да хаты, сьпяваючы усю дарогу тую-ж песню пра ”спарыша.”

Шмат дзе на Беларусі апошнюю латку жыта завуць „казьлінаю барадой”. Назва гэтая паходзіць ад старадаўнага вераваньня нашага народу, быццам душа, дух нівы — гэта падобная да казла істота, якая перасьледуецца жнеямі й хаваецца ў апошнюю нязжатую лапіну жыта ці ў апошні сноп. Хлеб і соль, якія кладуцца на зямлю ў часе завіваньня „барады” — бяссумлеўна сьляды старадаўнае ахвяры гэтай істоце.

Завіваючы „казіную бараду”, сьпяваюць

— „Ляжыць казёл на мяжы,
Дзівуецца з барады.
Чыя-ж гэта барада
Уся шоўкам павіта,
Уся шоўкам увіта,
Уся срэбрам уліта”.
Супронава барада
Уся шоўкам увіта,
Уся шоўкам увіта,
Уся срэбрам уліта”.

Калі гаспадар, чыё жыта жнеі жнуць, скупы, — гэтая песьня гучыць крыху йнакш:

— „Ляжыць казёл на мяжы,
Дзівуецца з барады.
Чыя-ж гэта барада
Уся дзёгцем уліта,
Уся дзёгцем уліта,
Мачуламі увіта?”

Разам з апошнім снапом ці вянком, схаваная ў „казінай барадзе” душа нівы пераносіцца ў хату гаспадара. Перадаючы гаспадару сноп-„спарыш” ці вянок, у які ўплецена „казіная барада”, сьпяваюць:

— „А ці поўна гарэхава чарка салод-
[кага мёду,
Так поўна, што не калыхнецца, не палі-
[ецца.
А ці поўна Грыгорава гумно жыта
[ядранога.
Так поўна, што канём ня ўехаць, пяш-
[ком не ўвайсьці.
Толькі можна сокалку ўляцець, дабра
[паглядзець”...

або

Судзіў Бог пажаці, судзі-ж, Божа, спа-
[жыці.
Перанёс Бог цераз сярпок, перанясі-ж,
[Божа, і праз лёганькі душок.
Дай-жа, Божа, на таку ўмалот, у дзя-
[жы падыход.
У печы ростам, на стале сыцьцю”.

У некаторых дажынкавых песьнях пяецца, як у двор гаспадара заходзіць сам Бог, спарыш і рай. Песьня пра „рая” асабліва характарная й цікавая. Яна лічыцца й найбольш важнаю. Кажуць, што нам Бог, скончыўшы жаць, сьпяваў яе:

— „Хадзіў раю па вуліцы, раю-раю,
Ніхто раю ў хату ня просіць, раю-раю.
Толькі папросіць а наш паночак, раю-
[раю.
Хадзі, раю, у маю хату, раю-раю.
У маёй хатцы усё ў парадку, раю-раю.
Сталы накрыты, кубкі наліты, раю-
[раю”...

Аднак, глыбейшы сэнс гэтае песьні даўно загубіўся. Каго нашыя продкі звалі „раем”, запрашаючы яго да сябе, няведама. Мяркуюць, што гэтак зваўся можа некалі бог жніва.

**К.**

# Новая эміграцыйная акцыя

**(Дапушчэньне 214.000 новых уцекачоў-эмігрантаў).**

У сувязі із прынятым нядаўна новым законам аб дапушчэньні ў США яшчэ дадатковых 214.000 новых эмігрантаў — ахвяраў апошняе вайны й уцекачоў з за зялезнае заслоны, падаем нашым чытачом колькі важнейшых пунктаў згаданае пастановы.

Як і раней, толькі тыя ўцекачы будуць магчы прыехаць у ЗША, якія атрымаюць г. зв. **ашуранс** ад „спонсара”, які жыве ў ЗША, **зьяўляецца амэрыканскім грамадзянінам і можа запэўніць новаму эміграну працу й кватэру на месцы,** прычым спонсар мусіць пасьветчыць, што ані праца гэтая, ані кватэра ня будуць дадзеныя новаму эміграну із шкодай для сталых жыхароў ЗША. Спонсар павінен выпаўніць адпаведны эміграцыйны блянк на імя таго уцекача, якога ён згаджаецца выпісаць і пераслаць выпаўнены й аформлены блянк у **Вашынгтон, у Дзяржаўны Дэпартамент.**

У адрозьненьне, аднак, ад папярэдняга закону, паводле якога ў ЗША прыехала бальшыня нашае новае эміграцыі, пераезд эмігранта, дапушчанага ў ЗША, і ягонае сям’і павінен быць аплачаны гэтым разам або самым эмігрантам, або ягоным спонсарам ці сваяком, ці якой-колечы дабрадзейнай арганізацыяй. Як і у папярэднія гады, гэткімі арганізацыямі ізноў, пэўне, будуць **Нацыянальная Каталіцкая Дабрадзейная Арганізацыя, Чорч Уорлд Сэрвіс і жыдоўская дабрадзейная арганізацыя Джойнт.** Новую перасяленчую акцыю пачынае й украінская арганізацыя **ЗУАДК.**

Найлягчэй, паводле новага закону, будзе прыехаць у ЗША **спэцыялістым розных галінаў працы, як інжынерам, навукоўцам, работнікам-спэцыялістым, землyробам** і г. д. Фэдэральнае Бюро Працы можа на жаданьне прадставіць дакладны сьпіс катэгорыяў працы, якія найбольш патрэбныя ў ЗША.

Таксама й **сваякі асобаў, якія жывуць у ЗША** (ці яны амэрыканскія грамадзяне, ці эмігранты, дапушчаныя сюды на сталае жыцьцё) могуць разьлічваць на лягчэйшае атрыманьне візы ў ЗША. У лік сваякоў залічаюцца **бацькі, дзеці, браты й сёстры** амэрыканскіх грамадзянаў і **мужы, жонкі й дзеці** неграмадзянаў. Нацыянальнасьць уцекачоў ці месца іхнага пражываньня таксама маюць паводле новага закону значаньне. У ЗША будуць дапушчаныя 55 тысячаў уцекачоў з Нямеччыны (у гэты лік уваходзяць і ДП, якія знаходзяцца ў нямецкіх лягерох ці наагул у Нямеччыне), 35 тысячаў новых нямецкіх уцекачоў з за зялезнае заслоны, 60 тысячаў італьянскіх уцекачоў, 4 тысячы сіратаў і 2 тысячы былых жаўнераў ген. Андэрса, сярод якіх, як ведама, таксама шмат беларусаў. Рэшта — складаецца з галяндцаў, грэкаў, арабаў, кітайцаў і г. д.

Новы закон прадугледжвае таксама вельмі дакладны (шмат яшчэ быццам дакладнейшы, чымся ранейшы) **„скрынінг” уцекачоў.** Кажны зь іх будзе старанна апытаны й спраўджаны перад выданьнем яму візы й калі эміграцыйныя ўлады сьцьвердзяць, што ўцекач не адказвае патрабаваньням новага закону (пераважна з боку дзяржаўнае бясьпекі ці маральнасьці) — візы ён не атрымае.

Новы закон, практычна, не пачне дзейнічаць раней, чымся **праз тры месяцы.** Напрацягу гэтага часу Бюро Бясьпекі пры Дзяржаўным Дэпартаманце мае распрацаваць дакладны плян перасяленчае акцыі паводле згаданага закону.

***

**У сувязі з вышэй паданым, Галоўная Управа БАЗА зьвяртаецца да ўсіх беларусаў добрае волі, якія маюць тут сталую працу й заробак, а шмат хто й свае дамы, з гэткім заклікам:**

**Кажны беларус павінен уважаць сваім абавязкам дапамагчы хоць аднаму нашаму суродзічу — які адказвае вымаганьням новага закону аб прыняцьці дадатковых 214.000 уцекачоў, ахвяраў апошняе вайны — прыехаць з Эўропы ў ЗША. Дапамога гэтая павінна складацца з падшуканьня спонсараў, якімі могуць быць гэтым разам толькі амэрыканскія грамадзяне, дзеля выстаўленьня ашурансаў, падшуканьня кватэраў і працы для нашых новапрыбываючых суродзічаў, а таксама ў аплаце ў форме зваротнай пазычкі дарогі з месца жыхарства эмігрантаў — у ЗША (аплата чыгункі й параплаву), у выпадку, калі сам эмігрант, ягоны спонсар ці арганізацыя гэтага ня можа зрабіць. Калі кажны з нас чэсна выканае гэты свой грамадзкі абавязак, — дык шмат нашых беларусаў, якія жывуць сяньня ў галіце ў Эўропе, будуць мець магчымасьць знайсьціся неўзабаве ў тых самых жыцьцёвых умовах, што й мы. Ініцыятыву ў гэтай справе павінны ўзяць на сябе ў першую чаргу аддзелы БАЗА, куды й павінны зьвяртацца па тэхнічныя парады ўсе зацікаўленыя.**

**Галоўная Управа БАЗА**

# *Паустрыманьне дапамогі*

У сыботнім нумары газ. „НРС” (29 жніўня) была зьмешчаная заява Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму аб спыненьні ім дасюлешняе дапамогі ўсім арганізацыям, якія ўваходзілі ў КЦАБ і МАКЦ. Гэты свой чын Камітэт тлумачыць немагчымасьцяй, ня гледзячы на ўсе спробы й намаганьні, дасягнуць паразуменьня паміж эміграцкімі арганізацыямі дзеля супольнага змаганьня з бальшавізмам. У выніку гэтага для Камітэту не засталося нічога іншага, як прызнаць, што няма надзеі стварыць у блізкой будучыні адзін фронт эміграцыі й паведаміць усіх сяброў першапачаткавага складу цэнтру, што калі разыходжаньні між імі ня будуць палагоджаныя, — уся дапамога, даваная эміграцкім арганізацыям у інтарэсах супрацоўніцтва дэмакратычных сілаў эміграцыі спыняецца 31-га жніўня.

Амэрыканскі Камітэт вельмі шкадуе, што некаторыя палітычныя групы эміграцыі не знайшлі ў сабе досыць дзяржаўнага розуму, каб адклаўшы на бок свае нутраныя разыходжаньні, задзіночыцца ў агульным фронце супроць Крамля ў гэткі вылучна спрыяльны момант. Савецкі Саюз сяньня перажывае якраз цяжкі крызіс, там ідзе змаганьне за ўладу, а незадаваленьне й хвалі непарадкаў за зялезнай заслонай прынялі нябачаныя дагэтуль памеры. Задзіночаная эміграцыя магла-б прычыніцца да новых моцных udараў па рэжыму тыраніі ў Савецкім Саюзе. Аднак, яна выявіла няздольнасьць да паразуменьня.

Амэрыканскі Камітэт жадае, каб эміграцыя правільна зразумела ягоную пазыцыю. Калі існуючыя эміграцыйныя групы патрапяць задзіночыцца ў супроцьбальшавіцкім змаганьні ў будучыні, — Камітэт ізноў гатовы матар’яльна дапамагаць ім, бо мэта ягонага існаваньня — змаганьне супроць бальшавізму — гэтага агульнага ворагу сьвету.

# З Беларускага Жыцьця

### БЕЛАРУСЫ НА ЗЬЕЗДЗЕ „PAX ROMANA" У БОНЕ

Ад 7-га да 12-га жніўня г. г. ў Нямеччыне ў Боне адбыўся гадавы зьезд ведамай каталіцкай міжнароднай арганізацыі „Pax Romana", у якую ўваходзяць як сябры нацыянальныя акадэміцкія і студэнцкія арганізацыі ўсяго сьвету. „Pax Romana" — гэта магутны й жывы хрысьціянскі рух, які ахапіў каталікоў усіх расаў і народаў.

На зьезьдзе былі гэткія прадстаўнікі паняволеных сяньня бальшавікамі народаў: беларусы, украінцы, палякі, славакі, румуны й інш. На чале беларускай дэлегацыі ад імя Беларускага Акадэміцкага Каталіцкага Аб'еднаньня „Рунь" стаяў др. Вітаўт Рамук і а. др. Ч. Сіповіч. Усіх беларускіх дэлегатаў было на зьезьдзе 6 чалавек.

На пачатку Зьезду з прывітальнай прамовай да блізу 300 дэлегатаў выступіў Старшыня арганізацыі „Pax Romana" праф. др. Тэйлар (ЗША). Пасьля яго выступаў праф. др. Мэйрэрс (Бонн), які прачытаў даклад на тэму: „Рэлігійны й духовы клімат у сучасным сьвеце". Цікавая дыскусія над дакладам працягнулася да наступнага дня, калі быў прачытаны другі аснаўны даклад сп-няй праф. Паранэтта (Рым) на тэму: „Уклад „Pax Romana" й ейных сяброў у сучасную думку".

Сьв. літургію ў нядзелю адправіў быў Яго Эм. Кардынал Фрынгс, пасьля чаго ў залі Боннскага Унівэрсытэту адбылося ўрачыстае паседжаньне з прамовамі прадстаўнікоў Царквы (кард. Фрынгс), нямецкага ураду, грамадзкасьці й сяброў „Pax Romana". З прамоваю-справаздачай ад імя беларусаў выступаў др. В. Рамук, старшыня „Руні". На заканчэньне паседжаньня адбыўся памастацку зладжаны канцэрт.

Ттрэцім аснаўным дакладам сёлетняга Зьезду „Pax Romana" быў даклад праф. Фон-дэр-Гэйдэ з Майнцу на тэму: „Міжнародныя заданьні каталіцкіх акадэмікаў".

У рамах зьезду адбылася й адмысловая зборка сяброў Арганізацыі — прадстаўнікоў паняволеных Саветамі народаў. На згаданай зборцы беларуская дэлегацыя паставіла была канкрэтную прапанову наладжаньня ў рамах і пад наглядам „Pax Romana' асобнага Тыдня Студыяў для прадстаўнікоў народаў з за зялезнае заслоны, бо ёсьць шмат справаў, якія датычаць у першую чаргу гэтых народаў і якія неабходна супольна абмяркаваць. Прапанова гэтая была прынятая і унесеная на пленум Заняцца ёй мае Галоўная Управа „Pax Romana".

Наступныя дні Зьезду былі прысьвечаныя дыскусіям над дакладамі й дзьвём вельмі ўдала арганізаваным экскурсіям:

Як у афіцыйных зборках, гэтак і ў прыватных сустрэчах і нарадах між шматнацыянальнымі удзельнікамі зьезду адчувалася згода й зразуменьне. За дасканала зарганізаваны сёлетні Зьезд гаспадаром-немцам належыцца шчырая падзяка.

**Вітаўт Зьніч**

### АНГЕЛЬЦЫ ЗАХОПЛЕНЫЯ БЕЛАРУСКІМ ВЯСЕЛЬЛЕМ

Нядаўна, 2.8.53 г., а. Аляксандар Крыт даў шлюб маладым — Я. Труш і В. Туру ў месьце Ліку, Ангельшчына. Таму, што ў гэтай мясцовасьці няма нашае Царквы, царкоўны шлюб адбыўся ў Ангельскай, на што ахвотна пагадзіўся ейны настаяцель пастар Г. Уэлл. Магчыма дзеля гэтага. на шлюбе былі прысутныя ня толькі беларускія госьці, але й некалькі сот ангельцаў, сярод якіх было шмат карэспандэнтаў. Дзякуючы вялікай ахвярнасьці казацкага сьвятара а. Палякова, які прыняў удзел у абрадзе вянчаньня із сваім хорам, яно было запраўды вельмі прыгожае й нязвычайна захапіла ангельцаў.

Назаўтрае пасьля згаданага шлюбу, шматлікія ангельскія газэты, „Івэнінг Сэнтынэль", а навет урадавая газэта „Дэйлі Экспрэсс", і інш., асабліва-ж мясцовая газэта „Лік Пост і Таймс", зьмясьцілі вялікія артыкулы, а апошняя й з прыгожай фатаграфіяй амаль на палавіну першае старонкі аб абрадзе беларускага вянчаньня, нязвычайна захопляючыся ягоным прыгаством. Між іншым, газэта падае ангельскім чытачом імёны маладых, зазначаючы, што яны абое прайшлі праз савецкія канцлягеры і што абрад быў выкананы сьвятаром Беларускай Аўтак. Праваслаўнае Царквы а. А. Крытом з Брадфарду паводля беларускіх праваслаўных звычаяў.

Карэспандэнты зазначаюць, што хоця прысутныя ангельцы й не разумелі словаў, песьняў, але ўсе былі глыбока узрушаныя іхнай мэлядыйнасьцю й красою. Аднаго зь іх вельмі зацікавіла даваньне сьвятаром віна маладым, і ён так тлумачыць значэньне гэтага мамэнту: „Гэта знак, што маладыя праз ўсё жыцьцё сваё будуць разам дзяліць усе сваё няшчасьці й цяжкасьці, усю ўцеху й шчасьце".

Адносна зьвязваньня сьвятаром рук маладых, карэспандэнт выясьняе ангельцам: „Так зьвязаўшы рукі маладых, сьвятар тройчы абвёў іх вакол налою на знак таго, што яны назаўсёды застануцца палучаныя ў любові як між сабою, гэтак і з Богам і Царквою".

### З ДЗЕЙНАСЬЦІ АДДЗЕЛУ БАЗА У ЧЫКАГА

12-га ліпеня 1953 г. адбылося першае паседжаньне кагадзе выбранае ўправы БАЗА, Аддзел Чыкага. На паседжаньні паміж сябрамі управы былі самперш падзеленыя функцыі, а тады абмяркаваны дакладны плян будучае дзейнасьці аддзелу. Між іншага, шырака абмяркоўвалася справа збору вопраткі й грошы дзеля дапамогі беларусам зь Нямеччыны й інш. краінаў Эўропы, якія апынуліся сяньня ў вельмі цяжкім палажэньні. Выкананьне згаданае зборкі даручанае Жаночай Сэкцыі Аддзелу.

### ДА ЧЫТАЧОЎ „БЕЛАРУСА"

Рэдакцыя мазэты „Беларус" зьвяртаецца да ўсіх сваіх чытачоў із ветлівай просьбаю аплаціць належнасьць за прысыланую ім газэту за мінулы час, а гэтаксама акуратна аплачваць прэнумарату „Беларуса" й на будучыню.

Цана „Беларуса" за год 2.50 дал.

Грошы просіцца высылаць на адрыс рэдакцыі газ. „Беларус" — 385 Алабама Эвэню, Бруклін 7, Нью-Ёрк.

### СУРОДЗІЧЫ — БЕЛАРУСЫ

**Камітэт Набыцьця Беларускага Народнага Дому яшчэ раз зьвяртаецца із заклікам да тых з Вас, хто дагэтуль не зрабіў гэтага, унесьці й Вашую ахвяру ў Фонд Набыцьця Беларускага Народнага Дому.**

**Справа гэтая павінна ляжаць на сэрцы кажнаму з нас. Таму не шкадуўце-ж ахвяраваць у Фонд часткі Вашага заробку.**

**Ахвяры просім слаць на адрыс скарбніка Камітэту сп. Д. Клінцэвіча — 541 Asford Street, Brooklyn 7, New York.**

**Камітэт Набыцьця Беларускага Дому**

# Новыя »дазнаньні« савецкай жывёлагадоулі

Пры Беларускай Акадэміі Навук ужо тры гады існуе інстытут жывёлагадоўлі. Дырэктарам інстытуту з'яўляецца доктар ветэрынарных навукаў Гарагляд. У ліку супрацоўнікаў інстытуту лічацца тры правадзейныя акадэмікі, дзевяць старэйшых навукоўцаў і да трох дзясяткаў іншых навукоўцаў і лябарантаў. Інстытут мае абсталяваныя лябараторыі і, для правядзеньня досьледаў, жывёлагадоўчую фэрму. Здавалася-бы пры такіх навуковых сілах і добрых умовах ад інстытуту жывёлагадоўлі можна было-б чакаць карысных вынікаў працы. На справе-ж ня ўсе навукоўцы працуюць на карысьць „сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Тры акадэмікі, якія лічацца ў інстытуце, запрошаныя адно для гонару і аўтарытэту гэтай інстытуцыі. Кіраўнік асноўнай лябараторыі прафэсар Юскавец жыве ў Маскве і па тры месяцы не заглядае ў лябараторыю. Загадчык аддзелу конягадоўлі лічыць сябе на асноўнай працы ў унівэрсытэце. Старэйшы навуковы супрацоўнік Гусяў, апрача пасады ў інстытуце, працуе яшчэ ў Віцебску і Ленінградзе і ніяк ня можа справіцца на працягу двух гадоў з даручанай яму тэмай. У сваіх справаздачах ён кажны раз прыводзіць выпадковыя лічбы й факты, на аснове якіх ня можна зрабіць ні абагульненьня ні вывадаў, адзначае газэта „Зьвязда" за 17 чырвеня г. г. у артыкуле „Бясплодныя практыкаваньні Беларускага інстытуту жывёлагадоўлі".

Відаць, увесь цяжар „навуковай" працы ляжыць на самым дырэктару інстытуту. Справядлівасьць патрабуе адзначыць, што доктар Гарагляд браўся за распрацоўку шмат якіх навуковых тэмаў. Яго ўжо даўно цікавіла актуальная праблема, як бы выцягнуць з цяжкага становішча „сацыялістычнае земляробства", стварыўшы саўгасам і калгасам трывалую кармавую базу для жывёлы, бо адсутнасьць кармоў ляжыць перашкодай на шляху росквіту жывёлагадоўлі. Два гады доктар „вывучаў" магчымасьць кармленьня птушак і сьвіней адыходамі аднаго Менскага прадпрыемства. Калі праца даходзіла да канца, высьвятлілася, што гэтых кармавых адыходаў з ўсёй Беларусі ня хопіць, каб пракарміць сьвіней аднэй калгаснай фэрмы. Аднак, надзея на перамогу не пакінула доктара, ён узяўся за распрацоўку „мэтодыкі санітарных дасьледаў ужываньня сухіх грыбоў і грыбных вырабаў" з мэтай скарыстаньня іх для адкорму сьвіней. Відаць „навуковы дасьледчык" быў упэўнены, што грыбныя зупы ці соўсы зьяўляюцца найлепшай стравай для адкорму калгасных сьвіней, трэба было толькі удасканаліць „мэтодыку" іхнага скарыстаньня. Ды нашто ўжо непераборлівай была надворная вясковая сьвіньня, але ня чуваць было, каб нашыя сяляне кармілі іх грыбамі. Наадварот, усім было ведама, што ў пералесках, гдзе пасьвілі сьвіней, сьвіньні грыбоў не елі, панюхае, ды лычом грыба й пераверне, а падабаліся ім жалуды, ды капытнік, які рос у нізкіх лясных мясьцінах. Усе можа быць, з галадухі сьвіньня й грыбы паесьць у калгасных фэрмах, толькі ці нарасьце сала ад грыбных стравaў? Прабаваў доктар Гарагляд рабіць досьледы і над акаменеласьцямі, якія сустракаюцца на дне вазёраў у Полаччыне й называюцца сапрапелямі. Гэтыя сапрапэлі вельмі цяжка знайсьці й дастаць з вазераў, ды відаць ня вельмі падабаюцца яны й сьвіньням. Гадоў дваццаць пяць назад праф. Салаўёў вывучаў гэтыя акамянеласьці, ён меў на мэце скарыстаць сапрапэлі для вырабу хэмікатаў, аднак, было знойдзена, што эксплятацыйныя выдаткі не пакрыюцца тымі хэмікатамі, якія будуць здабытыя з сапрапэляў.

Няўдалыя досьледы над грыбамі, сапрапэлямі, фабрычнымі адыходамі для вырашэньня кармавой праблемы, штурхнулі інстытут жывёлагадоўлі ў бок новых „перадавых мэтадаў" утрыманьня сьвіней у калгасах і саўгасах. З усіх пародаў сьвіней знойдзена найлепшай Слуцкая сьвіньня. Вось інстытут і ўнес у плян працы: „удасканаленьне Слуцкіх чорна-пярэстых сьвіней! Якім шляхам навукоўцы-дасьледчыкі „удасканаляць" чорна-пярэстых сьвіней, гэта покуль што сакрэт лябараторных досьледаў, бо „з году ў год тэма залічваецца „пераходнай" і „не ўкаранёнай", як адзначае газэта „Зьвязда". Нам ведама, што яшчэ перад трыццатымі гадамі ў інстытуце сьвінагадоўлі, які зьмяшчаўся каля Менску ў Сьляпянцы працаваў і праводзіў досьледы выдатны беларускі прафэсар-жыватнавод Журык. Ён ставіў мэту прыстасаваць да беларускіх умоваў далікатную, скарасьпелую, але за кволую на беларускія кліматычныя умовы, ангельскую сьвіньню. Праф. Журык ужо дабіўся пэўных посьпехаў шляхам вываду новай трывалай пароды ад ангельскай сьвіньні й дзікай, якая водзіцца ў лясох нашага Палесься. Карысная праца праф. Журыка была перарваная НКВД, ён быў арыштаваны, як шкоднік-нацдэм, які замест прагрэсу стаў на шлях „шкодніцтва", прышчапляючы сьвіньням уласьцівасьці дзікаў. А між тым ідэі праф. Журыка былі пасьля падхопленыя дасьледчымі ўстановамі ў іншых мясцох СССР.

Яшчэ адна навуковая тэма заслугоўвае ўвагі, каб на ёй крыху спыніцца. „Тэма гэтая" — як падае газэта „Зьвязда", — прысьвечана вопытам утрыманьня жывелы ў „спэцыяльным" сьвінарніку із „сталовай" і „прыбіральняй"... Вучоныя мужы інстытуту, відаць, прыйшлі да выснаву, што люксусовыя сьвіныя кватэры кампэнсуюць недахоп кармоў. Мы, аднак, ня схільныя падзяляць захапленьні Беларускага інстытуту жывёлагадоўлі.

Цяпер калькі слоў пра справы людзкого жыцьця ў краіне „пераможнага сацыялізму" ці навет „будаванага камунізму". Як паведамляе „Зьвязда" за 13 чырвеня г. г. у Менску па Заліўной вуліцы ёсьць 8 дамоў, у якіх жыве больш 80 сямействаў. Дахі ў дамох працякаюць, у дождж у кватэрах поўна вады, бо столь як рэшата й ніякая пасудзіна падстаўляная на падстрэшах, не дапамагла. Столі ад вільгаці абваліліся, тынкоўка, як нутраная, так і знадворная, асыпалася. Зусім разваліліся печы, асабліва дымаходы. На дварэ, каля дамоў поўна сьмяцьця, якое ня прыбіраецца. Памыйніцы й прыбіральні вычышчаюцца ня больш двух раз у год.

А колькі яшчэ савецкіх людзей гібее у развалінах, зямлянках і такіх кватэрах, як на Заліўной вуліцы! Савецкі народ нажывае рэўматызмы, бяз сьвету й цяпла дзеці растуць рахітыкамі. Ды ні адзін дасьледчы інстытут пытаньнямі палепшаньня жыльлёвых умоваў не займаецца. Таму нясьцерпным зьдзекам і глумам над савецкім чалавекам гучаць вучоныя трактаты савецкіх інстытутаў аб кватэрах із сталовымі й прыбіральнымі для калгасных і саўгасных сьвіней!

**В. Крыніцкі**

### ВЯЧОРНЫЯ КУРСЫ АНГЕЛЬСКАЕ МОВЫ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

Рада Дабрадзейнасьці й Здароўя места Нью-Ёрку (пры якой, як мы свайго часу паведамлялі ўжо нашых чытачоў, арганізаваная адмысловая арганізацыя дзеля дапамогі новай эміграцыі з за зялезнай заслоны улучыцца ў амэрыканскае жыцьцё) пляную адчыніць у пачатках восені адмысловыя, датарнаваныя для патрэбаў ДП курсы ангельскае мовы для тых, хто дагэтуль ангельскае мовы не апанаваў. Курсы гэтыя могуць быць арганізаваныя й для невялікіх групаў эміграцыі розных нацыянальнасьцяў (8-15 чалавек), навет, на жаданьне, у іхных собскіх памешканьнях (клюбах).

Дзеля таго, каб магчы скласьці дакладны плян, Рада Дабрадзейнасьці й Здароўя места Нью-Ёрк зьвяртаецца да эміграцкіх арганізацыяў, у тым ліку й да нашых беларускіх арганізацыяў з просьбай неадкладна паведаміць яе колькі беларусаў жадаюць наведваць ейныя курсы ангельскае мовы й дзе-б яны жадалі, каб гэтыя курсы адбываліся.

Адказы просім слаць на йімя Галоўнае Управы БАЗА — 385 Алабама Эвэню, Бруклін 7, якая складзе сьпісы жадаючых вучыцца ангельскае мовы беларусаў й перашле іх у Раду Дабрадзейнасьці.

**Галоўная Управа БАЗА**

### Грошы на „Беларуса" прыслалі:

| | |
|---|---|
| Сп. Азарка за кальпартаж | 5 дал. |
| Сп. К. з Гэмпстэду | 2 дал. |
| Гарвардзкі Унівэрсытэт | 2 дал. |
| Разам | 9 дал. |

# Нью-Ерк -- Штат імпэрыі

(Працяг з № 16)

Не ад рэчы будзе спыніцца тутка на часіну на лёсе амэрыканскіх індыянаў ня толькі ў прыгаданым запаведніку ў паўночна-ўсходнім куце штату Нью-Ёрк, але й наагул. Дык вось, на працягу 19-га стагодзьзя амэрыканскі ўрад прыдзяліў быў якраз індыянам, якія засталіся ў лясох ЗША, адмысловыя прасторы, названыя „запаведнікамі" ці „рэзэрвацыямі", дзе яны маглі жыць жыцьцём, набліжаным да існаваньня продкаў, паляваць, лавіць рыбу, жыць у „вігвамах" і г. д. ды... галадаваць, не сутыкаючыся, аднак, із цывілізацыяй, якую бальшыня зь іх не магла ўспрыняць. Сяньня, аднак, усё больш і больш індыянскае моладзі пакідае запаведнікі й шукае працы й кавалка хлеба па за іхнымі межамі. Справай гэтай занялося апошнім часам адмысловае Бюро для індыйскіх справаў закладзенае ў 1948 г., якое пачало расьсяляць індыянаў і падшукваць ім занятак арганізавана, паводле фэдэральнага пляну. Усіх індыянаў налічваецца на сяньня ў ЗША да 400.000.

Але варочаемся да нашае тэмы. Да супярэчнасьцяў у штаце Нью-Ёрк трэба аднесьці й ўраджайнасьць глебаў штату. На працягу колькіх міляў тутка можна знайсьці й найбольш урадлівыя й найбольш пустыя, а навет і зусім бясплодныя землі. Клімат штату няменш капрысны й няроўны, лета вельмі гарачае, сьпякотнае й нязвычайна ў некаторых ваколіцах (прыкладам, у месьце Нью-Ёрку) парнае, зіма-ж, бяручы на ўвагу, што паўдзённы кут штату ляжыць на тым самым градусе, што й Мадрыд ці Нэапаль, — параўнальна вельмі сьцюдзёная. Але лекары цьвердзяць, што гэты клімат „даволі" здаровы. У раёне гораў, каля Саранаку, пабудавачыя цудоўна-абсталяваныя санаторыі для сухотнікаў.

Адміністрацыйна штат Нью-Ёрк падзелены на 62 паветы, але гаспадарнікі гавораць пра 8 гаспадарчых акругаў, якія гуртуюцца кажная каля свайго прамысловага места. Найдалей на паўночным усходзе, ля Ніягарскага вадападу, ляжыць места Бафала, з паўмільённым жыхарствам, якое корміцц з працы на млынох, а таксама з працы на фабрыках сталёвае й самалётнае прамысловасьці. З усіх прамысловых цэнтраў ЗША Бафала займае 8-ае месца. Гэты горад, здаецца, й найбольш пярэсты што да нацыянальнага складу: найбольш там немцаў, шмат старое беларускае эміграцыі, якая дзеля нясьведамасьці залічаецца пераважна да палякоў. Нацыянальная беларуская праца тамака, аднак, не вядзецца.

Рачэстар — рэзыдэнцыя ведамае фатаграфічнае прамысловасьці "Eastman Kodak" — адно з прыгажэйшых местаў штату, цьвярдыня рэспубліканцаў і „фэдалаў". Ля ягонага унівэрсытэту створаны ведамы дасьледчы тэхнічны цэнтр. Сярод паўмільённага жыхарства тамака шмат багатых, больш чымся дзеколечы ў штаце.

340.000 жыхараў (з бліжэйшымі ваколіцамі) Сіракузаў працуюць пераважна ў вялізарных фабрыках пішучых машынак "L. C. Smith" і хімічных "Solvay" ды ў меншых прадпрыемствах. Сіракузкі Унівэрсытэт які мае 105-год залічаецца да найбольш ведамых у штаце. Вялікая старая беларуская эміграцыя й крыху новае аднак тут не згуртаваныя й сваіх беларускіх арганізацыяў ня маюць.

У месьце Шэнэктэды толькі 90.00 жыхараў, але больш паўмільёну ваколічнага жыхарства жывуць з працы ў "General Electric Company", якая лічыцца найлепей арганізаваным канцэрнам ЗША.

Албані — сталіца штату. Побач з палітыкамі і ў самым месьце і ў бліжэйшых ваколіцах жыве каля паўмільёну людзей, якія вырабляюць цацкі, туалетную паперу, хэмікаліі, більярдныя кулі ды апрацоўваюць кажухі. Гэты закінуты ў далёкае сухазем'е горад на берагох Гудзону маець і сваю добрую прыстань, з якое даплывацца ў акіян, а едучы на поўнач ды скарыстоўваючы пабудаваны ў 1825 годзе канал Іры, можна даплысьці да вялікіх вазёраў, да Чыкага й нават да Дулуты ў Мінэсоце. Аб беларусах у месце, няма пакуль што вестак, але ведама, што ёсьць яны й там.

Зразумела, гэтта паралічаныя толькі некаторыя з шматлікіх гарадоў штату Нью-Ёрк. Тутка знаходзіцца й цэнтр скуранае прамысловасьці ЗША — Гловэрсвілэ дзе жыве й працуе шмат жыдоў, з Беларусі, цэнтр дываноў — Амстэрдам, горад вырабу шпалераў — Гудзон Фоллс, места друкарняў — Плэзатвілэ, цэнтр вырабу віна — Рэймс, места шкляных гутаў — Корнінг, цэнтр бюровых машынаў — Эдыкота.

У месьце Нью-Ёрку 8 мільлёнаў чалавек, або 55% усяго жыхарства штату. Аднак згодна канстытуцыі, ньюёркцы маюць меншыя правы за рэшту жыхароў штату. З 150 дэпутатаў Кангрэсу з Нью-Ёрскага штату, места Нью-Ёрк выбірае толькі 67, а з 56 сэнатараў — усяго 25. А калі ўзяць на ўвагу, што места Нью-Ёрк плоціць 74% усіх дзяржаўных падаткаў, дык атрымлівае яно толькі 57% усіх выдаткаваных сродкаў дзяржавы. Гэткі падзел выбарчых акругаў часткава тлумачыцца тым, што ў штаце Нью-Ёрку пануюць рэспубліканцы, хаця места Нью-Ёрк лічыцца цьвярдыняй дэмакратаў.

Апрача ўсяго на палітыку Нью-Ёрку найбольш вызначаюць людзі, якія паходзяць з трох народаў — ірляндцы, італьянцы й жыды, я сказаў-бы, беларускія жыды. Адна Каталіцкая тутэйшая газэта нядаўна пісала, што кажны трэці жыхар Нью-Ёрку з паходжаньня жыд. Аб тым, якое вялікае значаньне ў палітыцы маюць нацыянальныя групы, сьветчыць факт, што партыя дэмакратаў трымаецца традыцыі выбіраць кандыдатаў на важнейшыя дзяржаўныя й штатныя пасады — губэрнатара, галавы Нью-Ёрку й сэнатараў ЗША, так, каб адзін зь іх быў жыд, другі ірляндзец, а трэйці — італьянец.

Аб беларусах Нью-Ёрку спынімся шырэй у наступны раз, бо гэтая тэма вымагае асобнага артыкулу.

**К-віч.**